



# Рабочы

## Дзвінскага памежжа

12 - 18 ліпеня 2001г Тэл./факс у Верхнядзвінску: (02151) 2-25-08 Наклад 250 ас. № (25)62

АД ПАДЗЕІ ДА ПАДЗЕІ

### ВЫБАРЫ

Адбылося чарговае паседжанне раённай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Яе члены вывучалі артыкул 61 Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь аб парадку прыёму падпісных лістоў ад членаў ініцыятыўных груп за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты краіны. Зацверджны план работы і графік дзяжурстваў камісіі.

***

Прадстаўнікі недзяржаўных грамадскіх арганізацый раёна, што ўваходзяць ў склад Каардынацыйнай Рады на назіранні за выбарамі, абмеркавалі ход выбарчага працэсу ў раёне. Было адзначана, што значных парушэнняў і перашкод з боку раённых уладаў на этапе збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты краіны не выяўлена. Разам з тым, без дробных хібаў усё ж не абыходзіцца. Так старшыня аднаго з сельсаветаў раёну запатрабавала ад члена ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за М.Чыгіра паведаміць колькасць грамадзян, якія гэтыя подпісы паставілі. Між тым, абавязак сельвыканкаму – толькі завярыць подпіс члена ініцыятыўнай групы. У іншым сельскім Савеце адмовіліся ставіць пячатку, спаслаўшыся на тое, што пасведчанне члена ініцыятыўнай групы за вылучэнне В. Цярэшчанкі падпісанае не старшынёй Цэнтрвыбаркаму краіны, а кімсьці з яе намеснікаў. Усе гэтыя канфліктныя сітацыі пакуль што вырашаюцца апэратыўна, без складання пратаколаў аб парушэннях. Напрыканцы паседжання сябры Каардынацыйнай Рады прынялі зварот да жыхароў Верхнядзвіншчыны, у якім заклікалі іх прыняць актыўны ўдзел у назіранні на прэзідэнцкіх выбарах.

### УЗНАГАРОДЫ

За актыўную плённую працу, значны ўклад у развіццё краязнаўства ў раёне і ў сувязі з 70-годдзем з дня нараджэння Ганаровай граматай раённага выканаўчага камітэту ўзнагароджаны дырэктар Валынецкага дзяржаўнага краязнаўчага музея імя Я.Д. Чэрскага Барыс Філіпавіч Шымук.

***

За актыўны ўдзел у грамадскай працы і ў сувязі з 55-годдзем з дня нараджэння старшыня райвыканкаму падпісаў распараджэнне аб уручэнні падзячнага пісьма начальніку раённай інспекцыі рыбаахоы, намесніку старшыні раённага савета ветэранаў Васілю Іосіфавічу Рудому.

# АСВЕЧАНЫЯ БОЖАЮ ЛАСКАЙ

**У шырокую плыньператварыліся ручаінкі пілігрымак да святыні з святыняў усяе Беларусі – храму Будслаўскай Божай Маці. З кожным годам шырыцца слава гэтае бажніцы і на Верхнядзвіншчыне. Сёлета з нашага раёну перад алтарамі ў Будславе кленчылі ўжо больш як сотня нашых землякоў.**

Багамольцаў на Мядзельшчыну везлі два аўтобусы, некалькі прыватных аўто, нехта дабіраўся цягнікамі, а група дзяцей і моладзі на чале з айцом Вячаславам Пялінкам адолелі тыднёвую пілігрымку пешака. Хлапчукі, з якімі давялося размаўляць у Будславе, прыкметна пасур'ёзнелі, узмужнелі. Дзесяткі вёрстаў штодзень у летнюю спёку, паходныя начлегі, адпаведны побыт, маленні і гутаркі на глыбокія тэмы, сустрэтая на шляху людская любоў і прыязнасць, воблік Радзімы – разлогі, лясы і азёры, прыдарожныя крыжы і капліцы – усё гэта адбілася ў юных вачох і сэрцах і, несумненна, прарасце ў душах высакароднымі парасткамі чысціні, веры і чалавечнасці.

А ў самім Будславе было як ніколі людна і як заўжды ладна. Храмавы гмах канчаткова адрэстаўраваны, глядзіцца велічна і святочна. У сувенірных шапіках шырокі выбар абразоў, календароў, паштовак і кніг пра Будслаўскую святыню, тысячы і тысячы людзей могуць адначасова і памаліцца, і падсілкавацца. Асвечаную ж ваду тут бяруць з агромністай цыстэрны на два дзесяткі кранаў. Дзесяткі святароў адначасова спавядаюць вернікаў, нескканчоны паток пілігрымаў уклечнуўшы рухаецца за алтар з цудадзейным абразом Будслаўскай Божай Маці ў абдоймы найстаражытнейшай святыні – капліцы, пабудаванай стагоддзі таму ў тым месцы, дзе з'явілася калісь перад людзьмі Панна Марыя.

Велічнасць і значнасць фэсту падкрэслівае прадстаўнічасць духоўных асоб: больш за сотню святароў, усе беларускія біскупы, кардынал Свёнтак, папскі нунцый Грушоўскі. Уначы і ўдзень – цэлыя суткі без перапынку ідуць маленні, спектаклі, спевы. Моладзь перад вялізным подыумам у святле ліхтароў, узняўшы рукі ўгору і пабраўшыся імі, гойдаецца, скача пад рытмы песень, падпявае, падхопліваe прыпевы: "Вітай, Марыя, ласкі поўная!"

Тысячы людзей прагна ловяць кожнае слова павучанняў, такіх простых, глыбокіх і зразумелых. Далучаныя мудрасцю да Бога, святары высокага рангу як запаведзь перадаюць пастве галоўнае з галоўнага ў Хрыстовым павучанні: "Бог ёсць Любоў. Любіце адно аднаго, і перад вамі адчыніцца неба!" І ўрэшце ты ўжо перастаеш дзівіцца, калі нехта бярэ цябе за руку, і сам цягнешся да іншага, і тысячы людзей, паяднаныя духам, паўтараюць клятвы вернасці і веры. Калі ж апоўначы з храма выліваецца і запаланяе вуліцы шырокая вогненная з свечак рака – душа ўзлятае ў любові і гордае радасці: не, не згінула святло ў нашых душах, не згіне ў паняверцы гэткі народ!.

Пра Будслаў над светлай Сэрваччу-ракой можна расказваць бясконца, але лепш пайсці да яго, пабачыць і адчуць. На зваротным шляху я задаў спадарожнікам толькі адно пытанне:

**— Што прывяло Вас сюды, да Бога?**

І мне адказалі:

*— Не задумвалася. Гэта проста як покліч душы. Мы з мужам тут штогод. Нясем сюды свае надзеі, падзякі да Божае Маці за шчасце жыць (Наталля Л.).*

*— Два гады таму я адчуў, што мне трэба ісці ў касцёл. І я пайшоў. Зараз без Бога не раблю ні кроку. З ім у маё жыццё прыйшло свята (Міхаіл В.).*

*— У кожнага з тысяч тут сваё, інтымнае. І ў той жа час ува ўсіх – адно агульнае – Любоў. Я шукала гэтае Любові і знайшла яе, жыву з ёю, праз яе бачу свет, праз яе навучылася даравацъ (Часлава П.).*

*— Мяне мама вазіла ў касцёл ажно ў Краслаў з пяці год. Дзесь у раннім юнацтве не без "дапамогі" школы былі "хістанні сумлення". Зараз я назаўжды з Богам, імкнуся ўдасканальвацца, шмат чытаю, нечасяжна высокімі бачу веды і філасофію каталіцкіх святароў. Ісці да Бога можна бясконца (Генадзь М.).*

**А.БУБАЛА.**





**На здымках:** *уверсе — храм Будслаўскай Божай Маці; кардынал Свёнтак падчас набажэнства.*



# УЗДЫМАЮЦЦА ВЕЖЫ

Як мы паведамлялі, дзякуючы настойлівасці айца Томаша, які знойшоў сведчанні колішняга вобліку Верхнядзвінскага касцёлу, не так даўно ў горадзе была распачата рэнавацыйная праца па падвышэнні касцёльнае вежы. Старыя фотаздымкі сведчаць, што вежа-званніца храму раней была стройнейшай, вышэйшай яшчэ на адзін ярус. Надоечы дрысенцы сталі сведкамі гістарычнай падзеі – пад'ёму касцёльнае вежы, што і зафіксаваў на фотаздымку наш карэспандэнт.

**У Верхнядзвінску падпіску на газету «Рабочы» можна аформіць па адрасе: вул. Заводская, д. 10, раённая арганізацыя «Камітэта абароны правоў працоўных»**

*Пераможцу віктарыны «Ад А да Я» чакае арыгінальная узнагарода ад раённай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.*

ВІКТАРЫНА

# Ад А да Я

**Працягваем віктарыну-гігант "Ад А да Я" на прыз Верхнядзвінскай раённай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Нагадваем, што вынікі падводзяцца як паэтапна (па пяці заданнях), так і агулам.**

**На сёння прапануецца крыжаванка, у якой усе словы пачынаюцца на літару «К».**

1. Даваенная вёска паблізу в. Лакісава. 2. Пісьменнік – партызанскі мемуарыст. 3. Ветэран партызанскага руху, адзін з стваральнікаў музея спецатраду "Баявы". 4. Былы фальварак М. Беніслаўскай і даваенная вёска ў межах сучаснага Бігосава. 5. Самая маленькая птушка нашага краю. 6. Беларускі паэт, у 1950 годзе настаўнічаў у Дрысе. 7. Птушка атраду сокалападобных. 8. Даваенны пасёлак бліз вёскі Гарадзілавічы. 9. Ахвярная вёска на Бігосаўшчыне, з вайны не адрадзілася. 10. Дрэвавая жабка. 11. Былая вёска бліз вёскі Мазурына, археалагічны помнік (курганы). 12. Былы маёнтак М. Паплаўскага і вёска ў межах сучаснага Нурава. 13. Ахвярная вёска на Бігосаўшчыне, існавала да 1986 года. 14. Вёска на рацэ Перамерка, існавала да 1980-х гадоў. 15. Даваенная назва вёскі Чапаеўская. 16. Мастак (1910–1991), родам з Валынцаў. 17. Даваенны хутар паблізу вёскі Гаўрыліна. 18. Травяністая расліна, карэнне якой "точаць" камяні. 19. Лекавая травяная расліна з жоўтымі кветкамі, расце на сухіх мясцінах. Пры адцвітанні падобная на дзьмухавец.




КУЛЬТУРА

# РОК - ТВОЙ ВЫБАР

**30 чэрвеня - 1 ліпеня ў Наваполацку прайшоў XII фестываль «Рок-кола-2001».**

Адметнасць сёлетняга шоу ў тым, што ўпершыню яно сабрала больш за 30 гуртоў. Прыкметна, што з кожным разам «Рок-кола» пашыраецца і пачынае з мерапрыемства рэгіянальнага ўзроўню выходзіць на міжнародны. Так, у гэтым годзе на фестываль прыехалі дзве расейскія каманды. Канцэпцыя «Рок-колы» не палягае на тое, каб прывозіць «раскручаные» гурты. Але ўжо стала добрай традыцыяй, што новыя зоркі ўпершыню загараюцца менавіта ў Наваполацку. XII фестываль беларускай рок-музыкі меў характар мабілізацыйнай кампаніі. Ен прайшоў пад лозунгам «Рок – твой выбар», сцэну ўпрыгажваў сімвал кампаніі - сонейка. Музыкі падчас перапынкаў прамаўлялі адпаведныя слоганы. Фактычна, «Рок-кола» стала адной з самых першых і буйных мабілізацыйных акцый у рэспубліцы. Як паведаміў адзін з арганізатараў, кіраўнік Навапалоцкага ЦМІ (цэнтр моладзевых ініцыятыў) «Сварог» Сяржук Балай, мясцовыя ўлады паставіліся да мерапрыемства ў рэчышчы кампаніі «Выбірай» з паразуменнем, а распачаў фестываль загадчык аддзелу культуры Наваполацкага гарвыканкама Аляксей Шчэрбік. У 11 гадзін вечара 30 чэрвеня былі ўжо падведзены вынікі конкурснай праграмы, а на наступны дзень адбыўся канцэрт лаурэатаў. Імі сталі 10 гуртоў з розных куткоў Беларусі: «Деяние» (Баранавічы, намінацыя «Лепшы бас-гітарыст»), «Теургия» (Наваполацак), Dead March (Менск, намінацыя «Найлепшы гітарыст і ўдарнік»), Jitters (Менск), Бардак House (Белаазёрск, «Найлепшае шоу»), Рок-кі (Орша, «Традыцыйны хард-рок»), «Аварыйнае выйсце» (Мар'іна Горка, прыз за самабытнасць), Madera Hard Blues (Менск, спецпрыз - запіс альбома), БН (Бяроза – прыз за мілагучнасць), The Ravens (Менск, найлепшы вакал). Журы таксама адзначыла госьцей фестывалю, гурты White Night Blues, Garotta, Happy Face, Existe, Stokes.

**Паводле ЦМІ «Контур».**

**РАСКЛАД ВЫЯЗДНОГА ПРЫЁМУ ГРАМАДЗЯН СТАРШЫНЯМІ РАЙВЫКАНКАМУ І РАЙСАВЕТУ, НАМЕСНІКАМІ СТАРШЫНІ РАЙВЫКАНКАМУ НА III КВАРТАЛ 2001 ГОДУ**

*16.08.* ***І.М. Палачанін,*** *старшыня райвыканкаму –* ***в. Боркавічы.***
*27.07.* ***І.С. Марачкоўская,*** *старшыня райсавету –* ***в. Лявонішана.***
*25.07.* ***А.В. Марэйка,*** *першы нам. старшыні райвыканкаму –* ***в. Валынцы.***
*20.09.* ***Л.А. Красоўская,*** *нам. старшыні райвыканкаму –* ***г.п. Асвея.***
*28.09.* ***В.Я. Якаўлеў,*** *нам. старшыні райвыканкаму –* ***в. Шайцерава.***
*31.08.* ***І.І. Грачуха,*** *нам. старшыні райвыканкаму –* ***в. Сар'я.***
*26.09.* ***Э.В. Аржанік,*** *нам. старшыні райвыканкаму –* ***в. Каханавічы.***

# НЕВЯДОМЫЯ ФАКТЫ З БІЯГРАФІІ Я.Д.ЧЭРСКАГА І ЯГО СЯМ"І

***Працягваем знаёміць чытача з жыццём і дзейнасцю Яна Дамінікавіча Чэрскага, чалавека, які ў далёкай Сібіры праславіў сваю Радзіму -- Беларусь. Матэрыял прапанавалі для друку краязнаўцы з СШ №1 г. Верхнядзвінска.***

### *ЛЁС ЖОНКІ І СЫНА*

*(Заканчэнне).* Валерый Шышанаў знайшоў заяву Маўры Чэрскай, што была напісана 27 лістапада 1919 году ў Віцебскі павятовы выканкам, дзе жонка вучонага з крыўдай і горыччу жадае адвесці ад сябе падазрэнні ў недабранадзейнасці.

Гэты ўнікальны дакумент мы прыводзім цалкам:

"На падставе патрабавання Высачанскай міліцыі аб падачы звестак аб сабе, — пісала "памешчыца", — паведамляю наступнае: Я, Маўра Паўлаўна Чэрская, дачка селяніна Іркуцкай губерні, была замужам за палітычным ссыльным, ураджэнцам Віцебскай губерні, які адбываў катаргу 6 гадоў, Іванам Чэрскім, пасля вядомым вучоным. За свае выбітныя навуковыя працы ў Геаграфічным таварыстве і па сёння яго імя між іншымі вялікімі вучонымі змешчана на Іркуцкім музеі.

Я была яго неразлучнай памочніцай ва ўсіх падарожжах. Вярнулася з 10-гадовым сынам у Пецярбург, маючы зберажэнні ў суме 1500 рублёў і два вялікіх залатых медалі, якія былі ўручаны мужу Акадэміяй за яго вучоныя працы, не маючы іншых сродкаў для існавання і слабае здароўе. Акадэмія з вялікімі цяжкасцямі дамаглася для мяне пенсіі памерам 33 рублі 33 капейкі. На гэтыя сродкі жыць у Пецярбургу і выхоўваць сына было немагчыма, і я, змясціўшы сына ў Пецярбургскую гімназію, стала аддаваць яму ўсю пенсію, а сама з'ехала ў Віцебск, баючыся патраціць рэшткі зберажэнняў. Мне ўдалося купіць кавалак зямлі з разбуранымі дамамі на ўскрайку. Тут да мяне далучыўся дальні сваяк мужа, сын палітычнага, М.Ф. Загорскі, які выправіў разбуранае. З той пары, на працягу 13 год, мы працавалі разам, карыстаючыся крэдытам ад людзей, якія нам верылі, што дало нам магчымасць прывесці дамы ў прыстойны выгляд. Нарэшце ў 1911 годзе мы абмянялі фальварк Казімірова Аршанскага павету Высачанскай воласці на 180 дзесяцін дрэннай зямлі, узяўшы для гэтага 10 000 рублёў банкаўскага крэдыту. Купчая была зроблена на маё імя ў сувязі з тым, што Загорскі па законе не меў права набываць зямлю.

Сваякоў у мяне няма ніякіх. Адзіны сын Аляксандр па заканчэнні універсітэту ў 1909 годзе быў кансерватарам музею ва Уладзівастоку, а потым з'ехаў на Камандорскія астравы. З той пары, больш за 10 гадоў, я не маю аб ім ніякіх звестак, а жонка яго Марыя Мікалаеўна Чэрская з сынам знаходзяцца ў Гарадку, дзе яна працуе загадчыцай дзіцячага садка Ліпкі.

У палітычных адносінах я беспартыйная, зараз мне 75 год (згодна з вядомай датай нараджэння, М.П. Чэрскай было тады 62 гады. – В.Ш.).

Дзякуючы ўсяму вышэйвыкладзенаму, пададзенаму летась у Аршанскі выканкам і водгуку двух пасялковых камітэтаў, мяне пакінулі на месцы, дзе я і зараз жыву, займаючыся



*Аляксандр Чэрскі.*

земляробствам і аказваю мясцовым сялянам урачэбную дапамогу, якая хоць і не прафесійная, але прыносіць істотную карысць.

М. Чэрская."

Аб тым, як склалася жыццё М.Чэрскай на Віцебшчыне пасля "рэгістрацыі", вядома няшмат. Але В.Шышанаў сцвярджае, што згодна з успамінамі Маўры Паўлаўны, якія адносяцца да 1925 году, зямлю ў яе адабралі, пакінуўшы пры гэтым толькі "працоўную норму" ў цэнтры хутару. Жонка сына Маўры разам з унукам у гэты момант жыла ў Воршы, дзе служыла ў Аршанскім музеі.

Агульнавядома таксама, што Аляксандр Чэрскі пры дзіўных абставінах быў забіты ў 1921 годзе на Камандорскіх астравах. Сама Маўра Паўлаўна ўсё ж зноў стала атрымліваць пенсію з 1926 года.

У 1935 годзе ўсё сямейства Чэрскіх пераехала ў Растоў-на-Доне. Прычым нястомная Маўра Паўлаўна, маючы ўжо вельмі сталы ўзрост, працягвала працаваць. Яна вяла гурткі юных аматараў геаграфіі, удзельнічала ў экскурсіях школьнікаў па родным краі, чытала лекцыі, а таксама вяла працу па апісанні геаграфічных фондаў Растоўскага краязнаўчага музею.

Памерла М.П. Чэрская 18 снежня 1940 года ў Таганрогу ў доме састарэлых вучоных.

У Растове-на-Доне ў яе гонар устаноўлена мемарыяльная дошка.

### *ЗАКЛЮЧЭННЕ*

Колькі б удзячныя нашчадкі не займаліся вывучэннем жыцця і дзейнасці Яна Дамінікавіча Чэрскага і яго сям'і, напэўна для дапытлівых даследчыкаў-біёграфаў заўсёды знойдуцца ўсё новыя матэрыялы, цікавыя дакументы, а можа і ўспаміны сваякоў і сяброў. Напрыклад, што здарылася з жонкай Аляксандра Чэрскага і ягоным сынам? Можа, яны жывыя да гэтай пары?

Ды і як загінуў Аляксандр Чэрскі, таксама было б цікава даведацца.

Безумоўна, яшчэ шмат "белых плямаў" у біяграфіі Чэрскіх. Адно бясспрэчна: Чэрскія вельмі моцна звязаны з роднай зямлёю і Расіяй. І не толькі вучоныя, але і простыя людзі гэтых дзяржаў назаўжды запомняць самаадданую працу сям'і Чэрскіх на развіццё навукі.

**РАСКЛАД ЗАНЯТКАЎ ГУРТКОЎ ВЕРХНЯДЗВІНСКАГА ДОМА РАМЁСТВАЎ**
*Саломапляценне:* ***аўторак – з 17 да 20 гадзін; серада – з 16 да 19 гадзін; нядзеля – з 9 да 12 і з 14 да 17 гадзін.***
*Разьба па дрэву:* ***чацвер – з 17 да 20 гадзін; субота – з 12 да 15 гадзін.***
*Фларыстыка:* ***нядзеля – з 12 да 15 гадзін.***
*Запрашаюцца ўсе жадаючыя.*

# НАПІСАНАЕ ЗАСТАЕЦЦА

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. Б).*

Потым "пайшоў" блок кнігі "Памяць", на які было адведзена недзе дваццаць хвілін. "Дакладчык" – намеснік старшыні райвыканкаму У.Якаўлеў і арганізатары і стваральнікі кнігі – выступоўцы падкрэслілі значэнне ўнікальнага выдання, яго ролю як летапіснай эстафеты ў будучыню. Укладальнік кнігі А.Бубала, назваўшы яе пашпартам ці люстэркам Верхнядзвіншчыны, напрыканцы выступу сказаў, што кніга "Памяць" пісалася шчыра, і хаця яе асобныя раздзелы адрэтушаваны ў ружовых танах, яна застанецца дакументам сваёй эпохі. Зменяцца валадары, будуць у нас іншыя сцягі і гімны, але вечнай будзе гэтая зямля, і тыя, хто будзе жыць на ёй, заўсёды будуць звяртацца да тых двух тамоў, што нарадзіліся на сутыку тысячагоддзяў, каб дайсці да сваіх каранёў. Дапытлівыя ўжо зараз могуць пачытаць тое, што засталося "за бортам" і што, спадзяемся, убачыць яшчэ свет у трэцім томе.

Трэцяя частка вечарыны аніяк не дастасавалася ні да аб'яўленай тэматыкі, ні да чырвоных дат. Першай у канцэрце, прысвечаным Дню незалежнасці, прагучала песня "Господа офицеры", затым пайшла расейская папса. Як кажуць, каментарый не патрэбны. І толькі напрыканцы выйшаў на сцэну народны ансамбль "Ярыца" з вянком беларускіх песень. Як адзначыў абсалютна нейтральны назіральнік – малады шафёр з Мінску, самым незабыўным ва ўсёй вечарыне для сталічных гасцей і яго асабіста сталася менавіта "Ярыца" і найперш яго зорка і рухавік Мая Рубель.

Варта адзначыць таксама, што кніга "Памяць", мяркуючы па запытаннях людзей, ужо сталася бібліяграфічнай рэдкасцю. Штораз даводзіцца чуць ад зацікаўленых: "Дзе купіць кнігу "Памяць"?" Падаецца, што сістэма "размеркавання" гэтага выдання з райвыканкамаўскім тысячным рэзервам недасканалая. Дзесяткі тамоў ужо разыходзяцца па руках шматлікіх гасцей раёну, што ў большасці можна лічыць раўназначным спісанню ў макулатуру; зацікаўлены ж чытач часцяком мусіць стаяць на чарзе ў бібліятэку. Не бачна ўнікальнага выдання і на паліцах былой кнігарні, загнанай у чарговы кут чужой гандлёвай залы. Там вітрыны забітыя бліскучай эратычна-магічна-мяшчанскай рускамоўнай "масоўкай", праз якую, нібы ў нашым тлумным жыцці, крэўнае Памяці аніяк не прабіцца.

І ўсё ж – напісанае застаецца. Дзеля нашае прышласці.

**А.БУРЫ.**





## АПЫТАННЕ

**— Як ідзе збор подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты? Чыталі ў раёнцы аб парушэннях?**

***Валянціна К., сябра ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты С.Домаша:***

— Я асабіста сабрала, мо, сто подпісаў. Усё адбываецца адпаведна Закону, добраахвотна і добразычліва. Парушэнні ж – ахайванне прэтэндэнтаў, грубасць, націск і ўтойванне імя таго, за каго збіраюць подпісы, па чутках, ідзе з боку тых, хто працуе на Лукашэнку.

***А.К., сябра ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты В.Цярэшчанкі:***

— Хаджу па кватэрах. У большасці людзі ставяцца да маіх візітаў нармальна. Аднак быў выпадак, які мяне глыбока пакрыўдзіў. У адной з кватэр пара маладых – муж з жонкай – вырашылі падпісвацца за "майго" кандыдата. Але раптам у пакой увайшла маці маладой жанчыны і закаціла брыдкі скандал. Яна раўла на дачку і зяця, пагражала ім усялякімі карамі, калі яны не падпішуцца за Лукашэнку, а ўрэшце ўзяла ды выштурхнула мяне з мацюкамі за дзверы.

***Наталля В., сябра ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты М.Чыгіра:***

— Я збіраю подпісы па вёсках. Кідаецца ў вочы, што народ дрэнна інфармаваны аб палітычных асобах Беларусі ўвогуле – гэта наступствы дзейнасці дзяржаўных СМІ. Даводзіцца часам тлумачыць людзям, што вылучэнне кандыдатаў – гэта яшчэ не выбары, але чым больш будзе вылучэнцаў, тым шырэйшы будзе пасля народны выбар.

***Антон Б., сябра ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты С.Домаша:***

— Я спачатку вывучаю і аналізую грамадскую думку, гутару з людзьмі, як і гутарыў раней, "проста так", пра палітыку. З падпісным лістом пайду адразу па патэнцыйных адрасах, бо не маю магчымасці марнаваць час, ідучы ў аддаленую вёску, дзе жывуць пяць пенсіянераў, каб вярнуцца адтуль ні з чым. Агітаваць не збіраюся, пакажу толькі партрэты кандыдатаў.

## ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ

# ВАС НАКІРАВАЛІ НА ПРАЦУ

Сёлета я скончыла Полацкі дзяржаўны універсітэт і па накіраванні павінна ехаць на працу ў сваю родную вёску. Ці будуць мне выплочвацца "пад'ёмныя?

**В.В.**, *Верхнядзвінскі раён.*

***Каментар юрыста Верхнядзвінскай раённай арганізацыі "Камітэта абароны правоў працоўных":***

— У адпаведнасці з артыкулам 96 Працоўнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, "работнікам, асобам, якія скончылі навучанне і пераязджаюць на працу ў іншую мясцовасць у сувязі з пераводам, накіраваннем, па арганізаваным наборы або прыёмам у адпаведнасці з папярэдняй дамоўленасцю, заключанымі дамовамі ці заяўкамі, кампенсуюцца:

1) кошт праезду работніка, асобы, якая завяршыла навучанне і членаў яе сям'і (муж, жонка, дзеці і бацькі мужа і жонкі, якія знаходзяцца на іх утрыманні і жывуць разам з імі) на тых жа ўмовах, што і пры накіраванні ў службовую камандзіроўку;

2) выдаткі па правозу маёмасці чыгуначным, водным і аўтамабільным транспартам (агульнага карыстання) у колькасці да 500 кілаграмаў на самаго работніка, асобу, якая завяршыла навучанне, і да 150 кілаграмаў на кожнага пераязджаючага члена сям'і;

3) сутачные за кожны дзень знаходжання ў дарозе ў адпаведнасці з заканадаўствам аб службовых камандзіроўках;

4) адзіначасовая дапамога на самога работніка, асобу, якая завяршыла навучанне ў памеры месячнай тарыфнай стаўкі (аклада) па новым месцы працы і на кожнага пераязджаючага члена сям'і ў памеры адной чацвёртай часткі дапамогі на самаго работніка.

5) выплочваецца заробак зыходзячы з аклада па пасадзе па новым месцы працы за дні збору ў дарогу і ўладкавання на новым месцы жыхарства, але не больш чым за шэсць дзён, а таксама за час знаходжання ў дарозе.

Такім чынам, калі Вы едзеце па размеркаванні, скончыўшы ВНУ, Вам таксама павінны зрабіць такія кампенсацыйныя выплаты. Адзіначасовай жа дапамогі ("пад'ёмных"), можна б было пазбавіцца толькі тады, калі б навучальная установа, якую Вы скончылі знаходзілася ў Вашай роднай вёсцы. Іншымі словамі, асобы, якія скончылі аспірантуру, клінічную ардынатуру, вышэйшыя, сярэднія і іншыя навучальныя ўстановы і накіраваныя на працу па размеркаванні па месцы знаходжання навучальнай установы (аспірантуры, клінічнай ардынатуры), дзе яны навучаліся, адзіначасовая дапамога выплочваецца, калі яны да навучання жылі ў іншай мясцовасці.

## ДА ПАДАННЯЎ

# КЛЯШТАР

**Мы працягваем знаёміць нашых чытачоў з гісторыка-археалагічным каментарам да рубрыкі «Паданні», які нам прапанавалі арганізатары конкурсу «Легенды і паданні роднага краю».**

Узвышша насупраць касцёлу, на якім месцілася Асвейскае вучылішча-"гімназіум", мае назву Кляштар. Як і належыць такой установе, гэты ўзвышаны пляц быў апаясаны кольцам шырокай нізіны, запоўненай вадой. Двор "гімназіума" быў абнесены агароджай метровай таўшчыні з цэглы, крытай чарапіцай, а цэнтральную браму ўрыгожвалі вароты з арнаментам з каваных прутоў. На самай вяршыні ўзгорка, за пабудовамі, рос цудоўны сад.

Пасля высялення езуітаў у будынку дзейнічала народнае вучылішча. Пасля рэвалюцыі вучылішча расфарміравалі, а пабудовы і сад перадалі камуне, само ж месца сталі называць Ленінскай дзесяцінай.

Затым не стала і камуны. Будынкі перадалі нейкаму прадпрыймальнаму мужыку. Той разабраў іх на цэглу. Ён быў настолькі "жвавы", што раскапаў нават скляпы і падзямеллі... ("Кляштар" пуставаў аж да 1990-х гадоў, калі на выраўненым пагорку пабудавалі новы корпус бальніцы. Будынак былога манастырскага шпіталю перадалі фабрыцы мастацкіх вырабаў, яго стан пакуль што пагаршаецца. – **рэд.**).

Захаваўся рукапіс на польскай мове пад назвай "Дзённік візітара Дамініканскіх манастыроў Паўночна-Заходняга краю 1821 – 32 г.г.". Відавочна, што шмат якія запісы адносяцца да часу, калі гаспадаром Асвеі быў Іосіф Шадурскі. Вось некалькі цытат з дзённіка:

— "Сам Граф Шадурскі наведаў наш манастыр".

— "Былі малебны ўсяго гімназіума".

— "Саветнік Шадурскі, наследнік асвейскі, абсалютна добрапрыстойны, заносіў вялізныя сумы на падтрыманне адукацыі беларускай і інфлянцкай шляхты. Я сам сведка на працягу 20-ці гадоў яго шчодрасці для бедных.

Здзейснілі агляд нашай моладзі. Тэолагі па сваіх прадметах адказвалі на наша здзіўленне. Літаратары, таксама філосафы, беручы навуку ад настаўнікаў чатырох моў, паказвалі і адоранасць, і асаблівую цягу да навук.

Прадметы былі: фізіка, матэматыка, літаратура, філасофія, гісторыя і мовы: французская, італьянская, нямецкая, грэцкая. Зараз пачынаюць яўрэйскую".

## З СУЧАСНАГА ФАЛЬКЛЁРУ

*Каму слота ды змярканне,*
*А яму ўсё леціцца,*
*Лукашэнка на экране,*
*Як анёлак свеціцца.*

*Ён адзін у нас шаноўны,*
*Яму гімны ўжо пяюць,*
*А астатнія ўсе – г...,*
*Жыць спакойна не даюць.*

## ЧУТКІ

***Ходзяць...***

**...** што звальняецца з пасады і наогул з'язджае з сям'ёю з Верхнядзвінску дырэктар цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы В.І.Крук. У такім выпадку раён страціць найвыдатнейшую арганізатарку не толькі бібліятэчнай справы, а і самых розных бакоў культурнага жыцця. Без Валянціны Іосіфаўны праблематычным стане далейшае існаванне народнага Клубу цікавых сустрэч, вечным праектам можа стаць ідэя стварэння літаратурнага музею, дзеля якога кіроўцай ЦБС так шмат ужо зроблена.

Сярод розных прычын, якія паўплывалі на выбар В.І. Крук, дасведчаныя людзі называюць і такія, як характэрную для нашых мясцовых уладаў няўвагу да працоўных заслуг людзей. Сапраўды, дырэктарка Верхнядзвінскай ЦБС без "нацяжкі" заслугоўвае урадавых узнагарод з высакароднага металу. Але чым яе энтузіязм, аддарасць справе, арганізатарскі талент і прафесійнае майстэрства адзначаны на самой справе?

Па завядзёнцы, у Дрысе ўзнагароды сыплюцца толькі на галовы "планавых" юбіляраў, што беспраблемна і цярпліва даседжваюць да пенсіі.

**...** аб цікавай прапанове адной з супрацоўніц Верхнядзвінскай ДЭУ (дарожна-эксплуатацыйнага упраўлення), што была зроблена рэдактару раённай газеты "Дзвінская праўда". Кажуць, што прадпрыймальная асоба прапанавала "галоўнаму" за адпаведную плату арганізаваць сіламі "дарожнікаў"... абкошванне кавалку ўзбочыны шашы ад Шайтарава да Ляшчылава (1 км), які замацаваны за калектывам выдання рашэннем райвыканкаму. Справа ў тым, што ў рэдакцыі ёсць толькі двое работнікаў, здольных рабіць гэткую "журналісцкую" працу – сам галоўны рэдактар і рэдакцыйны шафёр. Таму менавіта яны і апынуліся на ўзбочыне. Мабыць, з пункту гледжання спагадлівай чытачкі "раёнкі" дадзеныя абставіны паўплывалі на якасць выдання. Таму яна і прапанавала паслугі сваёй арганізацыі. Спачатку хадзілі чуткі, што загартаваныя супрацоўнікі дзяржаўнай прэсы, якія за гады рынкавага сацыялізму прызвычаіліся дакладна выконваць любыя распараджэнні выканаўчай улады, мужна адмовіліся ад паслуг "дабразычліўцы", аднак зараз кажуць,што нейкая дамова паміж рэдакцыяй і ДЭУ ўсё ж заключана. Мо, «дарожнікі» будуць выпускаць газету, а «газетчыкі» абкошваць шашу?

**...** што 1 ліпеня (у выхадны дзень) каля бару ў мікраёне быў затрыманы супрацоўнік Верхнядзвінскага аддзелу Дзяржаўнага следчага камітэту. Кажуць, што пры затрыманні, якое праводзілі два міліцыянты (лейтэнант і сяржант), у следчага адабралі правы на кіраванне аўтамабілем і нават прымянілі фізічную сілу. Калі верыць чуткам, падзея мае даволі дзіўны характар – чалавек выйшаў з уласнага аўто, падыйшоў да бару, упэўніўся, што той зачынены і, вяртаючыся да машыны, убачыў міліцыянтаў, якія выбягалі з кустоў яму насустрач. Калі гэта праўда, то ствараецца ўражанне, што яны спецыяльна падкаравульвалі менавіта дадзеную асобу. Трумачаць гэтую даволі дзіўную справу наступным чынам: пасля таго, як следчых аддзялілі ад РАУСу (Дзяржаўны следчы камітэт – зараз асобнае ведамства), пачаліся канфлікты паміж гэтымі структурамі, і затрыманне на пачатку ліпеня з'явілася адгалоскам ведамасных разборак.